Віннікавай патрэбная аперацыя (стар. 2) Самагубцу ўратавала паліто (стар. 2)
Як пераправіць грошы за мяжу (стар. 3) Хто можа быць прэзідэнтам Расіі (стар. 4)

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 34.640
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 8 ліпеня 1997 г. № 72 Кошт свабодны

## Уступныя экзамены будзе кантраляваць палкоўнік Замяталін

**Старшыня дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Замяталін атрымаў яшчэ адно прызначэнне: ён узначаліць прэзідэнцкую камісію па кантролі за ходам уступных экзаменаў.**

Прэзідэнт Лукашэнка даручыў былому намесніку кіраўніка сваёй адміністрацыі, а сённяшняму «міністру прэсы» ў кароткі тэрмін распрацаваць Палажэнне аб камісіі, а таксама канкрэтныя прапановы па арганізацыі кантролю за ходам уступных экзаменаў у ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных установы. Замяталіну давядзецца паспяшацца: нагадаем, што ўступныя экзамены ў Беларусі пачнуцца 14 ліпеня.

*БелаПАН*

*Святы засланілі гора*

## Загінулі дзеці

**У мінулыя выходныя, калі Мінск гуляў і весяліўся, у Гомельскай вобласці хавалі чатырох школьнікаў, якія трагічна загінулі ў аўтакатастрофе каля Кобрына Брэсцкай вобласці.**

Няшчасце здарылася 1 ліпеня ў пяць гадзін вечара. Чарнобыльскіх дзяцей з Рэчыцкага раёна чатырма аўтобусамі «Неаплан» везлі на аздараўленне ў Бельгію. На пад'ездзе да вёскі Камень Кобрынскага раёна калону, якая рухалася без суправаджэння ДАІ, заспеў дождж. Аўтобус, які ішоў першым (з хуткасцю больш за 90 км у гадзіну), раптам занесла на павароце і ён паляцеў у кювет. У двухпавярховым «Неаплане», якім кіраваў 57-гадовы бельгійскі вадзіцель, ехала 71 дзіця. Першая дапамога прыйшла толькі праз сорак хвілін. Вынік аварыі жудасны: чацвёра дзетак загінулі, 62 былі шпіталізаваныя ў бальніцах Кобрына і Брэста. Некалькі з іх учора ўсё яшчэ знаходзіліся ў цяжкім стане, але, па словах медыкаў, іхняму жыццю цяпер няма пагрозы.

Але трох хлопчыкаў і адну дзяўчынку вярнуць да жыцця ўжо было немагчыма — іх дасталі з аўтобуса нежывымі. Свеце Ламанос з Рэчыцкага раёна было 14 год, Ягору Фёдараву з Рэчыцы — 11 гадоў, Дзіму Назарчуку з Ельска — 12 гадоў, Максіму Дрожжу з Хойнікаў было ўсяго 8 гадкоў.

Расследаваннем прычынаў аварыі займаецца спецыяльна створаная камісія. Вадзіцель Вілі Зольє ўзяты пад варту і змешчаны ў следчы ізалятар Брэста. З дарослых пацярпеў толькі адзін чалавек — Ілля Левін, намеснік старшыні дабрачыннага фонду «Сусвет—кантакт—Чарнобыль», з дапамогаю якога і была арганізавана гэтая паездка. Дарэчы, на наступны дзень 228 школьнікаў са згоды бацькоў на трох аўтобусах паехалі далей.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Сталіца сваё адгуляла

**Тры дні пампезнага святкавання дня рэспублікі і 930-гадовага юбілею Мінска запомніліся жыхарам сталіцы не толькі грандыёзнасцю святочнай праграмы.**



*На здымках: героі мінскіх святаў. Адзін насвяткаваўся як мае быць (уверсе), а для нашага галоўнага героя і ягонай шматлікай аховы гэта хутчэй было не свята, а праца.*

Цэнтр Мінска ў гэтыя дні быў настолькі шчыльна перакрыты міліцэйскімі кардонамі, быццам улады рыхтаваліся не да свята, а да разгону несанкцыянаванай маніфестацыі. Самым распаўсюджаным словам у міліцыянтаў было слова «пропуск». Без гэтага таямнічага пропуска просты грамадзянін, які хацеў паглядзець вайсковы парад, тэатралізаванае шэсце ці канцэрт, пільнымі ахоўнікамі парадку бліжэй за 500 метраў да месца правядзення мерапрыемстваў не прапускаўся. Другой праблемай, з якой улады не змаглі справіцца, сталі аўтамабільныя коркі на прылеглых да праспекта Скарыны вуліцах, бо транспарт праз цэнтр горада ў святочныя дні не хадзіў.

Святкаванне пачалося вечарам 2 ліпеня з ускладання прэзідэнтам кветак да абеліска Перамогі. Пакуль Лукашэнка ўскладаў вянок і размаўляў на плошчы з нешматлікімі прадстаўнікамі «прагрэсіўнай грамадскасці» (пераважна састарэлымі членамі КПБ, саюза афіцэраў і маладымі «патрыётамі» з БПСМ), да Опернага тэатра пачалі з'язджацца ўдзельнікі ўрачыстага сходу, прысвечанага новаму дзяржаўнаму святу — «дню рэспублікі». Для падтрымання парадку да тэатра былі сцягнутыя вялікія міліцэйскія сілы, аднак сваімі няўмелымі дзеяннямі захоўваць парадак яны не маглі. Калі машына пасла Польшчы Эвы Спыхальскай пад'ехала да тэатральнай плошчы, раптам з'явіўся нейкі міліцыянт, які загадаў паслу запаркаваць аўтамабіль за 100 метраў ад будынка Опернага і ісці да тэатра пешшу, праціскаючыся паміж іншымі машынамі. Пані Спыхальска заявіла, што не дазволіць размаўляць з сабой такім тонам і, паабяцаўшы скласці афіцыйны пратэст у беларускае МЗС, скамандавала шафёру вяртацца ў пасольства. У Оперным тэатры Лукашэнка выступіў з 40-хвіліннай прамовай на беларускай мове. Сэнс гэтага спічу зводзіўся да наступнага: дзякуючы кастрычніцкай рэвалюцыі Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць, якую разам з іншымі народамі Савецкага Саюза адстаяла ў гады вайны. У апошні час, — адзначыў Рыгоравіч, — нацыяналістычныя сілы спрабавалі паставіць пад сумнеў заваёвы савецкага перыяду. Але цяпер у краіне ёсць цвёрдая ўлада, якая не дазволіць сепаратыстам дыктаваць сваю волю большасці народа. Лукашэнка таксама заявіў, што ад незалежнасці краіны ён ніколі не адмовіцца.



Дзень 3 ліпеня пачаўся праліўным дажджом і паднясцем прэзідэнцкага штандара над рэзідэнцыяй Лукашэнкі. Праспект Скарыны ад цырка да плошчы Незалежнасці былі перакрыты міліцыяй і вайсковай тэхнікай, бо ў 10 гадзін на «галоўнай плошчы краіны» пачынаўся вайсковы парад. Мне ўдалося прыстроіцца да калоны працоўных Першамайскага раёна Мінска і, хлюпаючы ў вадзе, дабрацца па вуліцы Інтэрнацыянальнай да плошчы Незалежнасці. Двое маіх суседзяў па калоне ціха мацюкаліся і праклінаді начальства, якое прымусіла іх такім надвор'ем ісці на парад. Некалькі жанчын пераконвалі самі сябе, што гэты дзень яны адпрацавалі як мае быць.

*(Працяг на стар. 2)*

## КенетЯлавіц «пост здаў»

**Учора, у апошні дзень свайго знаходжання ў Беларусі, пасол ЗША Кенет Ялавіц правёў развітальную прэс-канферэнцыю для журналістаў.**



Азіраючыся на трохгадовы перыяд сваёй працы ў нашай краіне, сп.Ялавіц галоўнай падзеяй назваў тое, што Беларусь канчаткова пазбавілася ядзернай зброі, і гэта значна палепшыла сітуацыю ў Цэнтральнай Еўропе. Пасол з задавальненнем адзначыў таксама пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі Беларусі і ЗША. У прыватнасці, за гэты тэрмін, па яго дадзеных, звыш 500 студэнтаў і навукоўцаў пабывалі ў ЗША па розных праграмах развіцця навукі і адукацыі. Часцей сталі прыязджаць у Беларусь госці з Амерыкі. Ёсць надзвычайныя прыклады эканамічнага супрацоўніцтва з буйнымі амерыканскімі кампаніямі. Аднак у цэлым працэс развіцця узаемаадносінаў, па словах Кенета Ялавіца, не быў лёгкім. *«Я пакідаю Беларусь з пачуццём заклапочанасці, што вашая краіна не ідзе па шляху дэмакратычнага рэфармавання настолькі хутка, каб ужо ў бліжэйшым будучым стаць паўнавартым членам супольнасці дэмакратычных краінаў свету»*, — заявіў сп.Ялавіц. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ЗША не выступаюць за ізаляцыю Беларусі. На ягоную думку, да ізаляцыі вядзе палітыка беларускага кіраўніцтва, якое не выконвае абавязацельстваў перш за ўсё па захаванні правоў чалавека, якія былі ўзятыя беларускімі ўладамі раней.

Паколькі на сустрэчу з журналістамі сп.Ялавіц прыехаў адразу пасля развітальнай размовы з Аляксандрам Лукашэнкам, журналісты не маглі абмінуць «прэзідэнцкую» тэму. Пасол ЗША ў Беларусі дыпламатычна адхіліўся ад прамых адзнак у бок Лукашэнкі, аднак заўважыў, што беларускім грамадзянам трэба браць больш актыўны ўдзел у падзеях, якія адбываюцца ў іхняй краіне і такім чынам уздзейнічаць на тую альбо іншую пазіцыю свайго кіраўніка, які, як сапраўды «таленавіты палітык», будзе вымушаны прыслухоўвацца да іншых поглядаў.

Адказваючы на пытанне аб ягоным далейшым лёсе, Кенет Ялавіц паведаміў, што будзе працаваць у Вашынгтоне ў Інстытуце міжнародных зносінаў пры Дзяржэпартаменце кіраўніком спецыяльнай праграмы для дыпламатаў. Новаму паслу ЗША ў Беларусі сп.Спекхарду (пра яго СВАБОДА паведаміць больш падрабязна ў наступным нумары) ён пажадаў больш магчымасцяў для азнаямлення з краінай: *«Як Вашынгтон не ўся Амерыка, так і Мінск — не ўся Беларусь»*, — сказаў сп.Ялавіц.

*«І ўсё ж я развітваюся з вамі ў аптымістычным настроі. Мае найбольшыя ўражанні ад Беларусі — гэта яе шчырыя, таленавітыя людзі і выдатныя краявіды. У вас выдатны чалавечы і прыродны патэнцыял. І я жадаю вам знайсці магчымасць выкарыстаць гэты патэнцыял найлепшым чынам»*, — заявіў Кенет Ялавіц.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Слуцкія ткачыхі трымаюць забастоўку

**Другі тыдзень бастуе славутае прадпрыемства Слуцка — тэкстыльная фабрыка.**

Ткачыхі патрабуюць выплаціць заробак за красавік і травень і выступаюць за адстаўку з пасады дырэктара фабрыкі С.Лосіка, які, на іхнюю думку, ужо «не цягне».

Гэтае невялікае прадпрыемства (тут занята крыху больш за сто чалавек) працуе на давальніцкай сыравіне пад канкрэтныя заказы. З заказамі сёння нягуста, таму нярэдка ткачыхі сядзяць без працы. Нездарма і сярэдні заробак у гэтым годзе ў іх складаў 500—600 тысяч рублёў у месяц. Але травень, здавалася, мог стаць больш шчодрым на грошы. Справа ў тым, што фабрыка атрымала немалы заказ на выраб тэкстыльнай асновы для цыраты, які выконваўся ў аўральным парадку. У той час, калі ўся краіна адзначала шматлікія майскія святы, слуцкія ткачыхі працавалі амаль без выходных, некаторым «закрылі» нават па 28—29 працоўных дзён. Але грошы, на якія разлічвалі жанчыны, яны дагэтуль не атрымалі, а шмат з кім не разлічыліся і за красавік. Цярпенне жанчын лопнула, і 25 чэрвеня яны пачалі страйк, а свае патрабаванні накіравалі мэру Слуцка Аляксандру Сайко і галоўнаму вертыкальшчыку Мінскай вобласці Пятру Пётуху. Як паведамляюць са Слуцка, дагэтуль начальнікі не здолелі знайсці грошы для ткачых. Трымаецца на сваёй пасадзе і дырэктар фабрыкі С.Лосік. Не паддаюцца на ўгаворы «пачаць працу» і слуцкія ткачыхі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

СВАБОДА
8 ліпеня 1997 г., № 72

# Сталіца сваё адгуляла

(Пачатак на стар. 1)



На здымку: пільныя міліцыянты на ўсе пытанні людзей адказвалі адным словам: «Пропуск!»

У 10 гадзін міністр абароны генерал Чумакоў аб'ехаў выстраеныя на плошчы войскі Мінскага гарнізона, павіншаваў вайскоўцаў са святам і даклаў Лукашэнку, што яго падначаленыя да параду гатовыя. Лукашэнка выступіў з кароткай прамовай (скарочаны варыянт выступлення ў Оперным тэатры), і войскі рушылі маршам праз плошчу. Прыкладна за 40 хвілін каля Дома ўрада прайшлі сувораўцы, курсанты, памежнікі, прадстаўнікі іншых радоў войскаў, праехалі цяжкія ракетныя і самаходныя ўстаноўкі, БТРы і БМП. Раптам дождж скончыўся, і вайсковую частку параду закрывалі ваенна-паветраныя сілы. Са страшэнным гулам на малой вышыні пранеслася некалькі вайсковых верталётаў, транспартных самалётаў, бамбардоўшчыкаў і знішчальнікаў. Услед за вайскоўцамі паўз трыбуну, дзе стаяў прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Лукашэнка, прамаршыравалі спартоўцы. Гэта ўжо нагадвала часы, калі падобныя парады прымаў адзін вялікі вусаты сябра ўсіх савецкіх фізкультурнікаў. Пасля дэманстрацыі сілы і магутнасці беларускай арміі на новапакладзеным асфальце дзенідзе засталіся выбоіны ад колаў цяжкой тэхнікі і сіратліва прытулены да Чырвонага касцёла плакацік з надпісам: «Беларусы за мір ува ўсім свеце!».

Гарадское свята пачалося на наступны дзень у 11 гадзін на Кастрычніцкай плошчы тэатралізаваным шэсцем «Стагоддзі над Мінскам». Артысты прафесійных і самадзейных калектываў усіх раёнаў горада прадстаўлялі розныя старонкі гісторыі Мінска — ад старажытнасці да нашых часоў. Праўда, трапіць на гэты фэст змог далёка не кожны. Зноў паўсюль стаялі пільныя міліцыянты і на ўсе пытанні людзей адказвалі адным словам: «пропуск». Такія дзеянні ўладаў выглядалі недарэчна, бо на плошчы ставала вольнага месца, а многія людзі былі вымушаныя штурхацца ў цесных падваротнях — для іх свята ўжо было сапсаванае. У 13 гадзін каля Палаца спорту пачаўся піўны фестываль «Смага-97». Тут размясцілі свае павільёны мінскія заводы «Крыніца» і «Аліварыя», а таксама лідскі бровар. Тысячы людзей хадзілі ад палаткі да палаткі, пілі цёплае піва і глядзелі, як нейкі самадзейны ёг рэжа сябе нажом, глытае шпагі і рукой забівае цвікі. Тыя, хто піва пераб'раў, размяшчаліся адпачываць проста на зямлі, пад спякотным сонцам.

Святкаванне працягвалася і на іншых гарадскіх пляцоўках. На Кастрычніцкай плошчы выступалі танцавальныя і музычныя калектывы, у скверы Янкі Купалы моладзь весялілі рок-гурты. Карацей, было шмат піва і песень. Не дзіва, што ад такой насычанай праграмы і спякотнага надвор'я людзі хутка стамляліся. Аднак у 21 гадзіну на Кастрычніцкай плошчы, дзе маэстра Фінберг са сваім аркестрам пачаў канцэрт з выканання ваяўнічага гімна горада, адмыслова напісанага да юбілею, людзей сабралася нямала. Зноў міліцыя ў розных месцах праспекта спыняла непажаданых гледачоў, аднак тыя, хто здолеў прарвацца на канцэрт, весяліліся на поўную моц.

Дзень 5 ліпеня быў заключным і, бадай, самым напружаным перыядам свята. Раніцай на спартовых пляцоўках Мінска праходзілі розныя спаборніцтвы, але прагная піва і відовішчаў публіка чакала вечара, бо ў 21 гадзіну пачыналася водная феерыя і феерверк. Перад пачаткам шоў на беразе ракі ад плошчы Перамогі да міністэрства абароны і вуліцы Камуністычнай сабралася не менш за 200 тысяч чалавек. У адрозненне ад леташняга падобнага мерапрыемства, сёлета яго арганізатары дапусцілі дзве вялікія памылкі: зрабілі на ўзбярэжжы сядзячыя месцы і даручылі ахоўваць парадак міліцыі. У выніку набярэжная не магла змясціць усіх гледачоў, якія тоўпіліся па ўсёй вуліцы Камуністычнай. Міліцыя перакрыла праходы па тратуарах праспекта Скарыны, і тысячы людзей, каб прарвацца да ракі, кінуліся ў прылеглыя вуліцы і прахадныя двары. Пачалася даўка, у якой толькі цудам ніхто сур'ёзна не пацярпеў. А з воднай сцэны пад дрэнны гук публіку весялілі А.Ярмоленка, А.Газманаў, іншыя спевакі і цыркавыя артысты. У 23:30 свята скончылася 15-хвілінным феерверкам. Натоўп людзей хлынуў на праспект, а з міліцэйскай машыны даносілася: «Грамадзяне, разыходзьцеся! Усе мерапрыемствы скончыліся. Станцыі метро «Плошча Перамогі» і «Кастрычніцкая» не працуюць». Як дзесяткам тысяч людзей раз'ехацца з цэнтра горада — ніхто не тлумачыў. Трохдзённы святочны ўраган скончыўся — добра, што хоць без ахвяраў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## У лагеры – галадоўка

**У дзіцячым лагеры «Зорка», што ў Брэсцкай вобласці, тры дні баставалі і галадалі ў знак пратэсту 17 важатых.**

Важатымі ў лагеры працуюць студэнты гістарычнага і спартыўнага факультэтаў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. Яны запатрабавалі ад адміністрацыі павысіць ім зарплату (за месяц працы важатыя атрымалі ўсяго па 300-350 тысяч рублёў) і забяспечыць у лагеры нармальныя санітарныя ўмовы, бо на працягу чэрвеня дзеці неаднаразова атручваліся сапсаванымі прадуктамі.

Важатых падтрымалі выхавальнікі і іншыя работнікі лагера. Спіс патрабаванняў, які падпісалі 28 чалавек, быў перададзены ў абласны прафсаюз работнікаў культуры. Студэнты спынілі галадоўку толькі пасля прыезду ў лагер прадстаўнікоў рэктарата універсітэта і абласной федэрацыі прафсаюзаў, якія паабяцалі важатым выканаць іх патрабаванні.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Самагубцу ўратавала паліто

**Скончыць жыццё самагубствам спрабаваў раніцай 2 ліпеня на мінскай плошчы Незалежнасці 42-гадовы прадпрымальнік з Баранавічаў Мікалай Васіленка.**

Напярэдадні ён патэлефанаваў у рэдакцыі некалькіх газет і паведаміў, што збіраецца ўчыніць самаспаленне. У прызначаны час каля станцыі метро карэспандэнтаў сустрэў мужчына, апрануты, нягледзячы на спякотнае надвор'е, у цёплае паліто. Ён сказаў, што рашыўся на самагубства, бо падатковая інспекцыя незаконна абрабавала яго і ён цяпер не можа расплаціцца з крэдыторамі. Тут жа Васіленка раздаў прысутным свой адкрыты ліст, абліў сябе бензінам і падпаліў. Карэспандэнтам удалося сарваць з яго ахопленае полымем паліто і збіць агонь са штаноў. Пакуль журналісты бегалі выклікаць хуткую дапамогу, няўдачлівы самагубца некуды знік. Добра, што на гэты раз жаданне жыць у чалавека перамагло.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Японія дапамагае пацярпелым ад урагану

**У сувязі са стыхійным бедствам, што спасцігла Беларусь, урад Японіі прыняў рашэнне прадаставіць гуманітарную дапамогу для жыхароў пацярпелых раёнаў і гарадоў.**

Пасольства Японіі ў Рэспубліцы Беларусь выказала спачуванне жыхарам Беларусі, якія пацярпелі ад урагану, і выказала спадзяванне, што наступствы гэтага стыхійнага бедства будуць хутка пераадоленыя. Як паведамілі ў амбасадзе, урадавая дапамога складаецца з набораў медыкаментаў, прызначаных для аказання тэрміновай медыцынскай дапамогі, агульнай вагой у адну тону. Мяркуецца, што такая колькасць медыцынскіх матэрыялаў можа задаволіць патрэбнасць 10.000 грамадзян у экстраным медыцычным абслугоўванні на працягу трох месяцаў.

Пасольства Японіі паведамяле, што дапамога будзе перададзеная беларускаму боку на гэтым тыдні.

*БелаПАН*

## Віннікавай патрэбная аперацыя

*Такое заключэнне зрабілі судмедэксперты*



Як вынікае з гэтага дакумента, на падрыхтоўку якога групе дактароў спатрэбілася больш трох месяцаў, Тамара Віннікава мае шэраг даволі цяжкіх хваробаў. За шэсць месяцаў знаходжання ў следчым ізалятары КДБ стан яе здароўя значна пагоршыўся. Медыкі прыйшлі да высновы, што патрабуецца хірургічнае ўмяшальніцтва. Разам з тым яны прызналі магчымым яе далейшае ўтрыманне ў турме. З гэтага вынікае, што дактары прапануюць апераваць Тамару Віннікаву за кратамі, на што яна не дае згоды, паколькі лічыць, што аперацыя ў такіх умовах не гарантуе ёй не тое што выздараўлення, а нават жыцця.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Што цешыць Філарэта

**Наваполацкае аб'яднанне «Палімір» наведаў мітрапаліт Філарэт.**

Пасля экскурсіі па заводу ўладыка асвяціў некалькі заводскіх будынкаў і сустрэўся з працоўным калектывам прадпрыемства. Адказваючы на пытанні рабочых, Філарэт выказаў шкадаванне, што Савецкага Саюза больш не існуе, аднак яго цешыць, што праваслаўная царква пазбегла расколу і засталася апошнім інстытутам былой дзяржавы, які захаваў свае адзінства.

Філарэт рады, што многія беларускія палітыкі наведваюць праваслаўныя храмы, а прэзідэнт у сваіх прамовах часта выкарыстоўвае выразы, «благозвучные» праваслаўнаму вуху. Аднак, уладыка не патлумачыў, якія менавіта выказванні Рыгоравіча прыемныя ягонаму вуху. Няўжо ўсе?

**Васіль КРОКВА**

## За чарнобыльскія грошы чыноўнікі рамантуюць сабе кабінеты

**Камітэт дзяржаўнага кантролю выкрыў у Гомельскай вобласці факты нямэтавага выкарыстання сродкаў, прызначаных для ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС.**

Так, вясною 1996 года міністэрствам па надзвычайных сітуацыях было выдзелена па 1 млрд. рублёў дванаццаці найбольш забруджаным раёнам Гомельскай вобласці. Грошы прызначаліся на добраўпарадкаванне населеных пунктаў, правядзенне рамонту сістэм водадаправоду і газазабеспячэння. Аднак, як паказала праверка, амаль 1 млрд. рублёў быў патрачаны на рамонт адміністратыўных будынкаў, у тым ліку выканкамаў Рагачоўскага, Чачэрскага, Калінкавіцкага і Брагінскага раёнаў.

*БелаПАН*

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

## Праздник после стихийного бедствия – как свадьба с покойником в доме

Помню случай, который был описан в популярной газете, а потом очень долго обсуждался не только в прессе, но и в курилках, на кухнях, около подъездов.

Шла активная подготовка к свадьбе. Решили играть ее в доме жениха. Было закуплено огромное количество продуктов и спиртного, приглашены гости. Все делалось с огромным размахом и пышностью. И надо же было такому случиться: в ночь перед свадьбой внезапно умирает отец жениха. Что делать? Отменить свадьбу? Но ведь продукты уже заготовлены, да и гости приехали. И тогда устроители решают: праздновать — никого не оповещая о горе. Весело гуляла та роскошная свадьба, гости от души веселились, пили, ели, желали счастья молодым — и не подозревали, что за стеной лежит покойник.

Этот случай мне вспомнился в связи с помпезным празднованием так называемого дня республики. Это выглядело таким же безнравственным и кощунственным, как та свадьба. Ведь накануне огромный ущерб понесла Беларусь от стихийного бедствия — урагана, который обрушился на нас 23 июня. Погибли люди, пострадали дома, имущество, линии электропередач, сельскохозяйственные угодья. Нужно объявлять национальный траур по погибшим, восстанавливать разрушенное и либо отменить праздник вообще, либо провести скромное чествование ветеранов войны.

Кто-то скажет: каждый день умирают люди — кто в больничной палате, кто под колесами автомобиля, кто в пьяной драке. Все так. Но в данном случае это — стихийное бедствие, и это надо понимать! Поэтому разнузданное веселье с лихими плясками на понтонах, которые были построены на Свислочи, считаю позором для нашего правительства!

**В.КОЛЕСНИКОВ,**
*г.Минск*

**ПРЭС-РЭЛІЗ**

## Белорусское правительство блокирует программу Нанна–Лугара

**Президент Лукашенко позволил себе высказывания в отношении финансовой помощи Республике Беларусь, которые искажают характер американско-белорусского сотрудничества. В связи с этим исполняющий обязанности пресс-секретаря Государственного департамента США Джон Динжер сделал следующее заявление.**

«Соединенные Штаты Америки находят вызывающими большое беспокойство комментарии, сделанные президентом Беларуси А.Лукашенко 27 июня, в которых он публично исказил характер американской помощи Беларуси. Около 40 млн. долларов, планируемые в качестве помощи Беларуси в рамках программы Нанна—Лугара по сокращению взаимной угрозы, не были выделены в 1997 г. потому, что США не смогли найти подтверждение тому, что Беларусь стремится выполнять требования в области соблюдения прав человека, предусмотренные программой по сокращению взаимной угрозы. Конгресс США требует подобных заверений ежегодно для тех стран, которые финансируются в рамках программы Нанна—Лугара.

Соединенные Штаты Америки добровольно взяли на себя обязательства предоставить Беларуси помощь более чем на 119 млн. долларов в рамках программы Нанна—Лугара. Эта помощь включает в себя выделение средств на выполнение Беларусью своих обязательств по уничтожению стартовых площадок для ядерных ракет СС-25 «Тополь», размещенных ранее в Беларуси. США уже предоставили Беларуси в рамках программы Нанна—Лугара помощь более чем на 60 млн. долларов и в настоящий момент работают над выделением Беларуси еще 19 млн. долларов, которые ранее были ассигнованы Конгрессом США.

США по-прежнему располагают зарезервированными средствами для проведения экологически безопасных работ по уничтожению стартовых площадок ядерных ракет. Именно правительство Беларуси несет ответственность за задержки в реализации этого проекта. Американский подрядчик был готов приступить к выполнению работ, связанных с уничтожением стартовых площадок, более года назад. Однако до сих пор он так и не получил от правительства Беларуси разрешения на доступ к объектам стартовых площадок.

Не предоставленные финансовые средства могут быть выделены, только если США смогут подтвердить стремление Беларуси придерживаться общепризнанных норм в области соблюдения прав человека. В этом случае средства могут быть предоставлены либо позже в текущем году, либо в 1998 г. США еще раз настоятельно призывают Беларусь продемонстрировать свое желание следовать обязательствам в области соблюдения прав человека и избегать искажения фактов».

*USIA*

